# ЗА СВАБОДНАЕ ВЕРАВЫЗНАННЕ

Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

№22 студзень — сакавік 2009


«... абяцаем тое сабе сумесна за нас і за патомкаў нашых на векі вечныя пад абавязкам прысягі, пад вераю, гонарам і сумленнем нашым, што мы, якія з'яўляемся рознымі ў веры, мір паміж сабой захоўваць, а ў сувязі з розніцай веры і адрозненнем у цэрквах крыві не праліваць і не караць адсуджэннем маёмасці, пазбаўленнем гонару, турэмным зняволеннем і выгнаннем, і ніякаму вяршэнству, ані ўраду, да такога ўчынка ніякім чынам не дапамагаць...»

**Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588. Гл.3, арт.3.**

# Вярхоўны суд Беларусі не дазволіў сходы вернікаў у прыватных дамах без дзяржаўнай рэгістрацыі рэлігійнай абшчыны

***Нагодай да разгляду пытання стала справа пратэстанцкага пастара Валянціна Баравіка з г. Масты Гродненскай вобласці.***

9 чэрвеня 2008 г. гарадскі суд г. Масты наклаў на В. Баравіка штраф у памеры 9-ці базавых велічынь (315 тыс. рублёў). Прычынай спагнання штрафа стаў «выяўлены праверкай» факт правядзення набажэнства, якое адбывалася ў прыватным доме. «Падчас сустрэчы яны чыталі Евангелле, абмяркоўвалі пытанні рэлігійнай веры, спявалі песні і здзяйснялі рэлігійныя абрады,» — напісалі ў тлумачальнай запісцы службовыя асобы, якія праводзілі праверку.

Вярхоўны суд Беларусі, у якім юрысты абскардзілі рашэнні гарадскога суда, адхіліў скаргу на патрабаванне дзяржавы пра рэгістрацыю рэлігійных абшчын для правядзення малітоўных сходаў у дамах вернікаў. Паводле рашэння ВГС, каб лічыцца легальнай, рэлігійная абшчына павінна быць зарэгістравана. Разгляд справы адбыўся 2 сакавіка 2009 г. — амаль праз 9 месяцаў пасля вынясення рашэння пра штраф. Пры гэтым намеснік старшыні Вярхоўнага суда пастанавіў, што гэтае рашэнне «ніякім чынам не парушыла» свабоду сумлення Баравіка. «З матэрыялаў справы відавочна, што ваша права на свабоду сумлення не было парушана ніякім чынам», — гаворыцца ў адказе намесніка старшыні Вярхоўнага суда Беларусі Валера Калінковіча на апеляцыю, пададзеную пастарам В. Баравіком.



*Валянцін Баравік*

«Што да сцвярджэнняў пра тое, што адміністрацыйная прававая норма супярэчыць Канстытуцыі і Міжнароднаму пакту, — працягнуў В. Калінковіч, — то гэта не адпавядае рэальнасці».

Пастар Валянцін Баравік мяркуе, што патрабаванне рэгістрацыі супярэчыць як Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі, так і Міжнароднаму пакту пра грамадзянскія і палітычныя правы. Пазіцыю пастара падтрымліваюць міжнародныя юрысты і эксперты па правах чалавека.

У апошні час у Беларусі шматлікія рэлігійныя абшчыны цярпяць ад чыноўніцкага пераследу за незарэгістраваную рэлігійную дзейнасць.

Дзяржаўныя чыноўнікі Беларусі мяркуюць, што пакаранне за незарэгістраваную рэлігійную дзейнасць апраўдана таму, што беларускі закон забараняе рэлігійную актыўнасць без дзяржаўнай рэгістрацыі. Аднак чыноўнікі адмаўляюцца тлумачыць, чаму такая забарона мае сэнс.

Вядучыя міжнародныя праваабаронцы, у тым ліку і прафесар Малькольм Эванс, член Дарадчай рады экспертаў па свабодзе рэлігіі і веры пры АБСЕ, адмаўляюць неабходнасць абавязковай дзяржаўнай рэгістрацыі для рэлігійных абшчын. «Патрабаванне рэгістрацыі рэлігійных абшчын амаль немагчыма пагадніць як з міжнароднымі стандартамі па правах чалавека, так і са стандартамі АБСЕ, — пацвердзіў прафесар Эванс.— Акрамя выпадкаў, калі гэта неабходна для падатковых ільгот або для атрымання статуса дабрачыннай арганізацыі, не павінна быць патрэбы ў абавязковай дзяржаўнай рэгістрацыі рэлігійных арганізацый».

***Паводле*** **Forum18**

# Ксяндза аштрафавалі, а крыж загадалі знесці



***20 лютага ў горадзе Лельчыцы Гомельскай вобласці раённы суд вынес рашэнне па адміністрацыйнай справе супраць пробашча рымакаталіцкага касцёла Найсвяцейшага Сэрца Ісуса і Маці Божай Фацімскай ксяндза Віталя Мысонова. Ксёндз Віталь Мысонаў аштрафаваны за ўсталяванне крыжа на ўездзе ў Лельчыцы.***

Фармальна святар аштрафаваны на 1 базавую велічыню за невыкананне прадпісання галоўнага архітэктара і на 2 базавыя велічыні за невыкананне прадпісання землеўладкавальнай і геадэзічнай службы. Разам гэта складае 105 тыс. беларускіх рублёў.

Прычынай спагнанняў стаў усталяваны летась крыж на ўездзе ў Лельчыцы.

Гісторыя ўсталявання крыжа даволі складаная. «Мы дабіваліся гэтага каля пяці гадоў, але безвынікова» — кажа а. Віталь. Потым райвыканкам узначаліў Віктар Гамолка і даў такі дазвол. Паводле прадпісання райвыканкама, усталяванне крыжа было ўзгоднена ў ДАІ і ДСУ, а на імя старшыні была напісана адпаведная заява.

Атрымаўшы станоўчы адказ, парафіяне ўсталявалі і асвяцілі крыж у гонар святога Канстанціна. Паводле падання, Канстанцін перад рашучай бітвай у 313 г. пабачыў у небе крыж. Канстанцін перамог і зрабіў хрысціянства дзяржаўнай рэлігіяй Рымскай імперыі. На лельчыцкім крыжы ёсць з таго падання цытата на лацінскай мове — «In hoc signo vinces» («У гэтым знаку ты пераможаш»).

Калі крыж быў ужо асвечаны, раённыя чыноўнікі прад'явілі ксяндзу новыя прэтэнзіі. Аказалася, што ўсталёўка памятнага знака не была ўзгоднена з архітэктарам горада, з гэтай прычыны архітэктар звярнуўся ў суд. 16 снежня райсуд у Лельчыцах прызнаў, што пры ўсталёўцы крыжа касцёл не парушыў закон. Хаця суд і стаў на бок святара, гэта не спыніла чыноўнікаў. У студзені 2009 г. ксёндз Віталь атрымаў прадпісанне землеўладкавальнай і геадэзічнай службы: «Арганізатару ўсталёўкі крыжа прадпісана прыняць неадкладныя меры па ўхіленні парушэння зямельнага заканадаўства і ў тэрмін да 30 студзеня 2009 г. вызваліць самавольна заняты зямельны ўчастак — знесці крыж ці ва ўсталяваным законам парадку аформіць матэрыялы па выдзяленню зямельнага ўчастку для яго ўсталёўкі». Гэта прадпісанне не было выканана, што і сталася прычынай новых судовых разглядаў.

«Самі мы крыж пераносіць не будзем», — заявіў ксёндз. У дадатак намесніца старшыні райвыканкаму Вольга Гаўрылавец, якая з'яўляецца таксама старшынёй камісіі па праверцы выканання заканадаўства ў галіне свабоды сумлення, стала настойваць на сваёй прысутнасці на занятках нядзельнай школкі ў касцёле. Ксёндз, палічыўшы гэта ўмяшаннем ва ўнутранае жыццё парафіі, адмовіў чыноўніцы. І атрымаў папярэджанне ад аблвыканкаму за перашкоду працы супрацоўнікаў райвыканкаму.

Намесніца старшыні райвыканкаму Вольга Гаўрылавец пракаментаваць сітуацыю адмовілася. «Вакол гэтага крыжа шмат самай рознай і надуманай інфармацыі», — сказала яна.

* * *

Парафія ў Лельчыцах адрадзілася ў 1990 годзе, сёння яна складае каля 350 чалавек. Стары драўляны касцёл згарэў у 1943 г. У 1998 г. пад кіраўніцтвам пробашча ксяндза Збігнева Бояра быў збудаваны новы касцёл, які атрымаў тытул Найсвяцейшага Сэрца Езуса і Маці Божай Фацімскай.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**




## У Страсбургу абмеркавалі свабоду веравызнання і дэмакратычныя змены у Беларусі

У сярэдзіне сакавіка сустаршыня Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Павал Севярынец і памочнік лідэра Руху «За Свабоду» Алесь Лагвінец сустрэліся з кіраўнікамі камітэтаў Еўрапарламенту і дэпутатамі Рады Еўропы.

Асноўныя тэмы візіту ў Страсбург — пытанне свабоды веравызнання і дэмакратычных зменаў у Беларусі.

Візіт арганізаваны Арганізацыяй хрысціянскіх юрыстаў «Alliance Defense Fund», якую прадстаўляе адвакат Роджэр Кішка, і беларускімі праваабаронцамі Сяргеем і Дзінай Шаўцовымі.

**Леакадзія МАРКАВА**

# Улады забаранілі ўстаноўку помніка вязням гета

***Мастоўскі райвыканкам не дазволіў актывістам руху «За Сабоду» ўсталяваць за свае сродкі ў мястэчку Месяцова Мастоўскага раёна Гарадзенскай вобл. памятную дошку на месцы былога гета.***

Старшыня мастоўскага райвыканкама Аляксей Шафарэвіч спаслаўся на тое, што ў Месяцова ўжо ёсць помнік ахвярам гета, а таму «няма неабходнасці ў яшчэ адной памятнай дошцы».

Актывіст руху Аляксандр Зарамбюк растлумачыў, што на існуючым помніку няма надпісу на беларускай мове. «Цяпер памятны знак знаходзіцца абсалютна ў баку ад месца трагедыі. Надпісы на ім зроблены на рускай і габрэйскай мовах, нягледзячы на тое, што жыхары мястэчка размаўлялі і размаўляюць па-беларуску. Таму мы хацелі ўсталяваць новую дошку з надпісамі па-беларуску і па-габрэйску. Цяпер мы рыхтуем новы зварот да старшыні райвыканкама, у якім змесцім гістарычныя факты, пра якія мясцовыя ўлады могуць і не ведаць», — паведаміў актывіст.

Пытанне пра ўсталяванне беларускамоўнай памятнай дошкі непасрэдна на месцы былога гета ўзнікае не першы раз. Яшчэ ў 2004 г. дэпутаты Луненскага сельсавета Валянціна Карпавіч і Аляксандр Пудоўкін узнімалі гэту праблему. І тады мясцовыя ўлады адмовілі дэпутатам ва ўсталяванні помніка.

**«Еўрапейскае радыё для Беларусі»**



# Мусульманін Міхаіл Міхаленя патрапіў у турму за адмову служыць у войску

***З 22 студзеня 2009 г. ў жодзінскай турме адбывае пакаранне за ўхіленне ад аплаты штрафу «уклоняющийся от призыва на военную службу» Міхаіл Міхаленя, 26-гадовы жыхар вёскі Калінаўка Любанскага раёна. Міхаіл Міхаленя адмовіўся служыць у войску па сваіх рэлігійных перакананнях: ён вызнае іслам, а ў беларускім войску няма ўмоў для службы мусульман. Пра гэта паведаміў бацька маладога чалавека, Іван Міхаленя.***

Мясцовы раённы суд напачатку 2007 г. прысудзіў маладога чалавека да штрафу па ч.1 арт. 435 Крымінальнага кодэкса — за «наўмыснае ўхіленне ад мерапрыемстваў прызыву на ваенную службу».

«Мая сям'я ў 2003 г. прыняла іслам. Мы прытрымліваемся законаў шарыяту, жывём у адпаведнасці з Каранам — святым пісаннем мусульман. І аднавяскоўцы, і прадстаўнікі сельсавета ведаюць, што мы — мусульмане і вядзём адмысловы лад жыцця. А ў 2006 г. майго сына прызвалі ў войска. Але вядома, што ў арміі няма ўмоў для службы мусульман, бо, па-першае, ежа не падыходзіць, а па-другое, нам трэба раз у суткі маліцца. Таму мой сын не выконваў патрабаванні ваенкамата», — кажа Іван Міхаленя.

У снежні 2008 г. Міхаіл Міхаленя быў схоплены супрацоўнікамі міліцыі ў хаце ягоных бацькоў. Маладога чалавека адвезлі ў Любанскі следчы ізалятар, а затым — у Жодзіна, дзе ён адседзеў цэлы месяц. Потым адбыўся суд.

«І, нягледзячы на тое, што адвакат звярнуў увагу суддзі на адсутнасць у войску ўмоў для службы мусульман, суд вынес рашэнне аштрафаваць майго сына на 1 мільён 550 тысяч рублёў», — абураецца Іван Міхаленя.

Сям'я Міхаленей не мае магчымасці выплаціць такі штраф. Сам Міхаіл беспрацоўны, яго бацькі таксама не могуць знайсці працу.

«Наша сям'я, як мусульманская, не мае такой магчымасці — нідзе не даюць працы. Я сам маю вышэйшую адукацыю, па спецыяльнасці — аграном, мая жонка — акушэр. Нас не бяруць на працу яшчэ і таму, шито мы прытрымліваемся апазіцыйных поглядаў і гаворым пра гэта абсалютна адкрыта з 1994 года.

Калісьці я быў фермерам, меў сваю гаспадарку, а ў 1999 годзе, паводле рашэння Любансканскага райвыканкама, мяне пазбавілі зямлі, паколькі ў мяне не было магчымасці належным чынам яе апрацоўваць. Таму, калі прыязджалі судовыя выканаўцы, мы казалі, што штраф выплаціць не можам, — тлумачыць Іван Міхаленя.

22 студзеня 2009 г. суд Любанскага раёна разгледзеў крымінальную справу па абвінавачванні Міхаіла Міхалені ў ажыццяўленні злачынства, прадугледжанага артыкулам 418 КК Рэспублікі Беларусь. Суд прызнаў яго вінаватым ва ўхіленні ад аплаты штрафу і вынес пакаранне ў выглядзе арышту на 3 месяцы з улікам 1 месяца папярэдняга ўтрымання пад вартай з 20 снежня 2008 г.па 21 студзеня 2009 г.

### Каментар юрыста:

Праваабаронца Валянцін Стэфановіч, каментуючы сітуацыю, у якой апынуўся малады мусульманін, падкрэсліў, што яе складанасць злучана з праблемай альтэрнатыўнай службы ў нашай краіне.

«Крымінальная справа Міхала Міхалені, на мой погляд, з'яўляецца вельмі паказальнай у тым аспекце, што ў Беларусі дагэтуль няма альтэрнатыўнай службы. Гэта значыць, службы для тых людзей, якія адмаўляюцца і не могуць служыць у звычайным войску па этычнарэлігійных перакананнях. Міхаленя з'яўляецца вернікам, прыналежыць да мусульманскай канфесіі. Сваю адмову служыць у войску ён матываваў менавіта сваімі рэлігійнымі перакананнямі — тым, што ён не можа ў войску ў поўнай меры ажыццяўляць свой рэлігійны культ.

Нягледзячы на гэта, ён быў прыцягнуты судом да крымінальнай адказнасці. Трэба адзначыць, што суд паставіўся да яго даволі мякка, спачатку не пазбавіўшы волі, а пакараўшы штрафам. Тым не менш, мы лічым, што праблема альтэрнатыўнай службы з'яўляецца вельмі актуальнай. І падкрэсліваем, што, паколькі ў Беларусі няма альтэрнатыўнай службы, такія выпадкі крымінальнага пераследу могуць паўтарацца і ў будучыні», — адзначыў Валянцін Стэфановіч.

# «Новае Жыццё»: вернікі працягваюць змаганне за свой будынак

## Мінгарвыканкам прапанаваў «Новаму Жыццю» пераехаць на пустыр

***Улады прапанавалі царкве "Новае жыццё" 13,1 тыс. даляраў у якасці кампенсацыі за будынак і ўчастак зямлі, ацэненыя ў суму не меней за 3,4 млн. даляраў.***

Пастар мінскай царквы "Новае Жыццё" Рэлігійнага аб'яднання абшчын хрысціян поўнага Евангелля ў Рэспубліцы Беларусь Вячаслаў Ганчарэнка заявіў, што ўлады Мінска прапанавалі абшчыне замест існуючага будынка царквы зямельны ўчастак каля МКАД.

"Цяпер вернікі валодаюць адрамантаваным будынкам, плошча якога складае 1,731,5 тыс. кв.метраў. У будынку змяшчаецца зала для набажэнстваў на адну тысячу месцаў, моладзевае кафэ на 150 чалавек, зала на 100 дзяцей і тры класа для нядзельнай школы, пяць кабінетаў, дапаможныя памяшканні, санвузлы, кацельня і калясачная", — распавёў пастар.

"Замест будынку і ўчастку зямлі, што ацэньваюцца ў суму не меней за 3,4 млн. даляраў, гарадскія ўлады прапанавалі абшчыне 13,1 тыс. даляраў у якасці кампенсацыі за знос нерухомасці", — адзначыў Вячаслаў Ганчарэнка.

Пастар падкрэсліў, што для рашэння пытання пра выдзяленне зямельнага ўчастка абшчына мусіць ажыццявіць шэраг работ і ўзгадненняў, дзеля чаго неабходна, у лепшым выпадку, ад палутара да двух гадоў і не меней за 100 тыс. даляраў, а для ўзвядзення новага храма — ад трох да пяці мільёнаў даляраў.

Рашэнне пра прыняцце ці непрыняце прапановы Мінгарвыканкама будзе ўнесена на разгляд агульнай рады царквы "Новае Жыццё". Таксама пастар Ганчарэнка звярнуўся да грамадскасці за парадай.

### «Новае Жыццё» зноў у судзе

5 сакавіка ў Мінску касацыйная калегія Вышэйшага гаспадарчага суда адмовіла вернікам пратэстанцкай суполкі «Новае жыццё», якія намагаюцца прызнаць іх права на ўласны будынак і зямлю. Вернікі зноў рыхтуюцца да абароны свайго храму і збіраюцца абскардзіць гэтае рашэнне.

Касацыйная калегія Вышэйшага гаспадарчага суда пакінула без зменаў рашэнне ад 13 студзеня. Тады суд вынес рашэнне на карысць гарадскіх улад. Ён адхіліў патрабаванне царквы «Новае жыццё» — прызнаць незаконным рашэнне Мінгарвыканкаму, якое пазбаўляе вернікаў права карыстацца ўласным будынкам і зямлёй.

Вернікі набылі калгасны кароўнік на ўскрайку Мінску і пасля рамонту ладзілі там набажэнствы. Ад 2005 года яны адстойваюць свае правы ў судовых інстанцыях. У 2006 г. правялі 21-дзённую галадоўку пратэсту супраць дзеянняў гарадскіх улад. Пастар царквы Вячаслаў Ганчарэнка быў выкліканы ў прэзыдэнцкую адміністрацыю, дзе яму абяцалі вырашыць справу станоўча і папрасілі спыніць галадоўку.

Касацыйная скарга рэлігійнай грамады пакінута без задавальнення. Юрыст царквы «Новае жыццё» Сяргей Луканін адзначыў:

«Было шмат юрыдычных падстаў, каб адмяніць рашэнне. Таму я яшчэ больш упэўнены, што суд працягвае выконваць замову ўладаў, якія наогул не жадаюць бачыць нашу царкву ў сталіцы Беларусі. Далей мы падамо скаргу ў Прэзыдыум Вышэйшага гаспадарчага суда. І будзем далей ісці юрыдычным шляхам».

Таксама вернікі падавалі хадайніцтва аб узбуджэнні крымінальнай справы за перашкоду законнай дзейнасці рэлігійнай арганізацыі ў дачыненні да начальніка аддзелу па справах рэлігій Мінгарвыканаму Алы Рабіцавай. Аднак, паводле спадара Луканіна, суд першай інстанцыі ніяк не адрэагаваў на гэтае хадайніцтва, і цяпер гэтае пытанне не было разгледжана.

### Каментар юрыста Дзіны Шаўцовай

Паводле праваабаронцы Дзіны Шаўцовай, вернікі чакалі іншага рашэння суду:

«І я думаю, для таго каб адмяніць рашэнне суду першай інстанцыі, было дастаткова падстаў. І лічу мэтазгодным і неабходным абскардзіць рашэнне і далей. Для царквы цяпер склалася няпростая сітуацыя. Бо ўсе прававыя калізіі, якія былі дагэтуль, захоўваюцца».

Царква «Новае жыццё» афіцыйна зарэгістравана Мінгарвыканкамам у 1992 г. і цяпер налічвае каля тысячы сталых прыхаджанаў. У 1999 г. мінскія ўлады забаранілі пратэстанцкім цэрквам арэндаваць памяшканні для набажэнстваў. Таму царква доўгі час праводзіла набажэнствы пад адкрытым небам. У 2002 г. яна набыла за ўласныя грошы будынак былога калгаснага кароўніка ў Мінскім раёне. У дамове куплі-продажу гаворыцца, што будынак набываецца з мэтай будаўніцтва культавага будынку. Вернікі патрабуюць ад уладаў не адбіраць у іх маёмасць, а дазволіць збудаваць прыгожы храм.



# За што айца Збігнева выдалілі з Барысава?

***У снежні 2008 г. беларускія ўлады спачатку не падоўжылі знаходжанне ў Беларусі тром замежным каталіцкім святарам, якія працавалі ў Гродзенскай вобласці, а потым — і грамадзяніну Польшчы Збігневу ГРЫГАРЦЭВІЧУ, ксяндзу Барысаўскага касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі.***

Наколькі як святара любіць яго паства, сведчыць і той факт, што за некалькі дзён людзі сабралі больш за 400 подпісаў пад зваротам да чыноўнікаў з просьбай пакінуць ксяндза ў Беларусі і дазволіць рэлігійную дзейнасць.

Тры гады таму такі ж лёс напаткаў папярэдніка З.Грыгарцэвіча па службе ў Барысаўскім касцёле, земляка і калегу — айца Роберта Кшэвіцкага.

Што ж гэта за каталіцкія святары-місіянеры, якіх праз дватры гады беларускія ўлады выштурхоўваюць з краіны? Чаму святары, рызыкуючы сваімі нервамі, здароўем, а таксама тым, што мы называем службовым і прафесійным становішчам, усё ж едуць у Беларусь да тутэйшых каталікоў? Нарэшце, за якія такія правіны іх выдаляюць адсюль?

**— Шаноўны айцец Збігнеў, чаму беларускія ўлады хочуць вас выдаліць з Барысава, з Беларусі? Вельмі ўжо ўсё падобнае на дэпартацыю...**

— Гэта, канешне, не дэпартацыя. Проста барысаўскія ўлады не даюць мне даведку, на падставе якой я, замежны святар, тут, у Беларусі, магу падоўжыць сваю візу дзеля свайго далейшага знаходжання ў вашай краіне. Прынамсі, без такога дакумента ніхто з нас афіцыйна ў Беларусі не можа працаваць. Прыехаць сюды так, на нейкі кароткі час дазваляецца, а працаваць у якасці святара — не.

**— І ўсё-такі, не зразумела: чым чалавек, далёкі ад мірскіх спраў, не дагадзіў чыноўнікам?**

— Мне падаецца, мясцовыя ўлады рэдка агалошваюць прычыны свайго негатыўнага стаўлення да тых ці іншых прадстаўнікоў хрысціянскага кліру. Напрыклад, калі я ў Барысаве разам з тутэйшымі калегамі іншых канфесій у верасні 2008 года арганізоўваў фестываль хрысціянскай музыкі, то службы ад мясцовай «вертыкалі» сябе праявілі наогул як бязбожнікі.



Хаця, паўтараю, у фестывалі бралі ўдзел праваслаўныя, пратэстанты і каталікі. Тлумачу: улады спачатку дазволілі заяўнікам гэтага мерапрыемства ажыццявіць яго, але потым, паводле незразумелай прычыны, адмовілі нам. Пры ўсім тым, першы дзень фестываль працаваў, а на другі дзень чыноўнікі яго згарнулі. Без усялякіх тлумачэнняў. Было бачна, што загадчыца ідэалагічнага аддзела спадарыня Людміла Гарнак і яе куратарка, намесніца старшыні Барысаўскага райвыканкама Валянціна Шутко (а з імі я быў па гэтай справе ў кантакце) брутальна парушылі законны правапарадак Рэспублікі Беларусь. Мяркуйце самі, у тым выпадку, калі яны хацелі забараніць ужо дазволенае і распачатае мерапрыемства, дык няхай бы такую забарону ўчынялі за пяць дзён да пачатку імпрэзы, як патрабуе таго беларускі закон, а не тады, калі фестываль усё-такі легітымна працаваў цэлыя суткі. Дык хто тут саграшыў? За кім — прэзумпцыя невінаватасці?

Я быў на прыёме ў упаўнаважанага па справах рэлігіі Мінскай вобласці. Спытаўся: ці не за арганізацыю памянёнага фестывалю мяне так пакаралі? Прамога адказу не пачуў...

**— Гэты фестываль хрысціянскай музыкі нёс у сабе высакародную ідэю — умацаванне адносін верацярпімасці паміж прадстаўнікамі розных канфесій...**

— Натуральна. Яшчэ ў мінулым годзе мы ўсе — службы каталіцкага касцёла, праваслаўных цэркваў і цэркваў пратэстанцкіх канфесій — вырашылі, каб у студзені 2009 года правесці малітву адзінства хрысціян. Але перад гэтым меліся падрыхтаваць і здзейсніць менавіта вось такі музычны фестываль, які б сведчыў аб нашай глыбокай і шчырай веры ў Ісуса Хрыста. Запрасілі на гэты фэст хрысціянскія рок-групы з адпаведным рэпертуарам. Дарэчы, многія з іх ужо вядомыя ў Беларусі, іх вакальнае майстэрства знаходзіцца на высокім узроўні. Напрыклад, група «Ратаванне» некалькі разоў давала канцэрты нават у Палацы Рэспублікі. Яшчэ раз паўтараю: ніякіх палітычных мэт, чаго так баяцца ідэалагічныя чыны з Барысаўскага райвыканкама, згаданы фестываль не меў.

Як не мела палітычнай «падкладкі» і тое, што мы з адным барысаўскім праваслаўным святаром планавалі збудаваць у горадзе велізарны спартыўны цэнтр імя святых апосталаў Пятра і Андрэя. Нас нават паспелі маральна падтрымаць у гэтай справе спартыўны клуб завода «БАТЭ», Алімпійскі камітэт Беларусі ды розныя нашы іерархі. Я асабіста ўжо распачаў пошук першых ста тысяч далараў на збудаванне згаданага комплексу. Сам комплекс меліся ўзвесці ў мікрараёне «Печы», побач з праваслаўнай царквою. Такім чынам, мы, тутэйшыя святары асноўных у Беларусі канфесій, хацелі дапамагчы мясцовай моладзі. Ну хаця б дзеля таго, каб адцягнуць яе ўвагу ад вуліцы, шкодных звычак, каб зацікавіць юнакоў і дзяўчат здаровым ладам жыцця. Ці не таго ж самага хоча прэзідэнт Беларусі?

**— Скажыце, калі ласка, а якое ў вас застанецца ўражанне пра нас, звычайных жыхароў-вернікаў з Барысава?**

— Барысаўчане — людзі, якія па характары сваім добрыя і сумленныя. Цярплівыя... Добрыя вернікі, сярод якіх і беларусы, і палякі, і рускія. Я ж таксама — беларус.

**— Магчыма, вашу справу наконт выдалення з Беларусі яшчэ перагледзяць...**

— Хутчэй за ўсё — не. Кідаецца ў вочы: барысаўскім уладам адукаваныя, ініцыятыўныя людзі з ліку замежных грамадзян не патрэбныя. Чыноўнікі паводзяць сябе надта дзіўна. Напрыклад, вельмі складана аказваць вашым землякам гуманітарную дапамогу, у чым я не аднойчы пераконваўся... Праўда, мне рэктар той самай ВНУ, дзе я вяду лекторый, казаў, што яму я надзвычай неабходны... Між іншым я не збіраўся ў гэтым горадзе і краіне з кімсьці канфліктаваць, тым больш з прадстаўнікамі барысаўскай «вертыкалі». За тры гады жыцця ў Беларусі не парушаў аніякіх законаў. І вось вынік: замежны святар Барысаву непажаданы... Гэта дзіўна. Напрыклад, у Казахстане, дзе я працаваў у 90-я гады, адносіны да замежных прадстаўнікоў каталіцкай канфесіі былі вельмі цярплівыя.

**— І апошняе пытанне: вы сябе больш пачуваеце беларусам ці грамадзянінам Польшчы?**

— У Беларусі мае карані, тут мая Бацькаўшчына. Мае бацькі — беларусы, і я, натуральна, беларус. Хаця Польшча мне дала ўсё, што мне трэба было для таго, каб я сфармаваўся як асоба. Я ёй вельмі за гэта ўдзячны. Тым не менш, я вельмі хацеў атрымаць беларускае грамадзянства...

**— Давайце будзем спадзявацца на лепшае...**

— Паспрабую. Але шанцаў на станоўчае вырашэнне пытання амаль няма...

**«Народная Воля»**

# Праваслаўны святар Аляксандар Шрамко вярнуўся да служэння

***Дазвол працягнуць служэнне ў праваслаўнай царкве ён атрымаў таму, што пакаяўся ў грамадскай дзейнасці і ўдзеле ў кампаніі «За свабоднае веравызнанне».***

Праваслаўны Вялікі пост у Мінску пачаўся нязвыклай дзеяй у мінскім Свята-Духавым саборы, якую ачоліў мітрапаліт Мінскі Філарэт. Ён паставіў перад сабою на калені таленавітага праваслаўнага публіцыста-блогера айца Аляксандра Шрамка і прыняў ягонае «публічнае пакаянне».

Пакаянне мае адкрыць А.Шрамку дарогу да святарскай дзейнасці, што была яму забароненая некалькі гадоў, калі ён быў выведзены за штат «да раскаяння». А.Шрамко ў свой час быў пакараны за адмову спыніць вядзенне блогу.

Іерархію РПЦ цікавілі таксама кантакты А.Шрамка з палітычнымі хрысціянска-дэмакратычнымі ініцыятвамі і ўдзел у міжканфесійнай канферэнцыі па пытаннях свабоды сумлення.

Айцец Шрамко быў духоўным лідэрам групы нон-канфармісцкай праваслаўнай моладзі. Святаром ён стаў у 1994 г., з 1996 да 2007гг. служыў у прыходзе ў гонар Пакрова Найсвяцейшай Багародзіцы ў Мінску. Пасля забароны служыць ён не мог знайсці сабе працу і перабіваўся выпадковымі заробкамі.

**«Наша Ніва»**



# З Беларусі дэпартаваны двое дацкіх святароў

***Увечары 7 лютага ў гомельскую царкву хрысціян поўнага Евангелля «Жывая вера» пасля заканчэння набажэнства ўвайшлі супрацоўнікі АУС Савецкага раёна і аддзела па грамадзянстве і міграцыі, а таксама мужчына ў цывільным, які прадставіўся як дружыннік, але ўвесь час кансультаваў капітана міліцыі. Яны правялі праверку пашпартоў у прысутных на набажэнстве замежнікаў.***

У выніку аддзел па грамадзянстве і міграцыі АУС Савецкага раёна Гомеля прыняў рашэнне пра дэпартацыю грамадзян Даніі Эрлінга Лаурсена і Рольфа Бергена. Пасля кансультацый з юрыстамі і пасольствам замежнікі маюць намер абскардзіць рашэнне.

«Грамадзяне Індыі, студэнты гомельскіх ВНУ не цікавілі міліцыянераў: міліцыянеры тут жа вярнулі ім пашпарты, — кажа пастар царквы «Жывая вера» Зміцер *Падлобка*. — Пры праверцы пашпартоў датчан адразу ж увайшоў перакладчык, і замежнікам прапанавалі прайсці ў аддзел міліцыі». У АУС грамадзян Даніі абвінавацілі ў распаўсюдзе ідэй рэлігійнага характару і арганізацыі рэлігійнай дзейнасці. Затым азнаёмілі з пастановай пра дэпартацыю.

Э.Лаурсен паведаміў, што візіт у Беларусь насіў прыватны характар. «Я не арганізую і не вяду тут ніякай рэлігійнай дзейнасці, я прыехаў, каб наведаць сяброў з царквы, і на служэнні, калі мы разам маліліся, у мяне была магчымасць мець зносіны з людзьмі. З вернікамі царквы мяне злучае шматгадовае сяброўства — мы раней працавалі з Гомелем у плане гуманітарнай дапамогі», — сказаў Э.Лаурсен. Год назад праца з гуманітарнай дапамогай была спынена, бо ў гэтым кірунку «стала вельмі цяжка працаваць, тут і нават рызыкоўна».

Перш у Э.Лаурсена, па яго словах, не было праблем з беларускімі ўладамі. «Яны нават дапамагалі нам пры ўзнікненні складанасцяў з афармленнем розных дакументаў», — падкрэсліў датчанін. Замежнікі былі вельмі здзіўленыя, што на просьбы пра юрыдычную дапамогу ад беларускіх адвакатаў яны атрымалі адмову. «Нас літаральна прымусілі прыехаць у аддзел міліцыі менавіта ў суботу ўвечар, у міліцыянераў былі ўжо падрыхтаваны ўсе дакументы. У нас у краіне абсалютна іншая сістэма — у кожнага чалавека ёсць права мець адваката, абаронцу, павінен быць суд», — сказаў Э.Лаурсен.

Р.Берген з'едзе з Беларусі 11 лютага — як і было ім запланавана. 19 лютага краіну пакіне Э. Лаурсен. Аддзел па міграцыі забараніў датчанам наведваць Беларусь тэрмінам на 1 год. «Мае дадзеныя ўнеслі ў спіс адміністрацыйных парушальнікаў», — паведаміў Э.Лаурсен.

10 лютага ў аддзеле па грамадзянстве і міграцыі датчане атрымалі пашпарты са штампамі пра дэпартацыю. Э.Лаурсен падкрэсліў, што, нягледзячы на ўзніклыя праблемы, мае намер у будучыні прыязджаць у Беларусь. «Нашы адносіны, сяброўства не зменяцца пасля такой сітуацыі», — заявіў ён.

Таксама замежныя служыцелі, пасля кансультацый з юрыстамі, маюць намер абскардзіць рашэнне пра дэпартацыю.

**Алёна Германавіч**

# За вяртанне касцёла Св. Язэпа вернікі моляцца пяты год



***Споўнілася чатыры гады, як вернікі розных каталіцкіх парафіяў моляцца за вяртанне касцёла Святога Язэпа і кляштара бернардынцаў у Мінску. Ад верасня некалькі дзесяткаў чалавек таксама трымаюць малітоўны пост. Такім чынам акцыя за вяртанне касцёлу працягваецца.***

Цягам чатырох гадоў вернікі штовечар прыходзяць да касцёла Святога Язэпа, каб памаліцца на прыступках будынку. Тыя, хто з розных прычынаў прыйсці не здольны, вызначыў для сябе пэўныя дні посту, які ахвяруе за справу вяртання святыні. Напачатку акцыі да людзей прыходзілі чыноўнікі гарадзкой адміністрацыі з абяцанкамі вырашыць пытанне. Аднак, як сказала Ганна Сіўчык, адна з актывістак руху, і па сёння ніякіх зрухаў не адбылося:

«На сённяшні дзень працягваецца пост і малітва. З боку ўладаў няма ніякіх канкрэтных крокаў у абяцаным кірунку. Людзі абапіраюцца выключна на веру. Спадзяемся, што нашае пытанне будзе вырашана станоўча, бо Бог мацнейшы за ўсялякую ўладу. І нават калі сёння ад пэўных людзей залежыць, каб трымаць касцёл у сваіх бязбожных руках, то ў рэшце рэшт гэта вырашыцца так, як захоча Пан Бог».

Мінгарвыканкам запланаваў перадаць будынкі святыняў інвестарам для пераўладкавання ў гатэльна-забаўляльны комплекс. У адказ вернікі сабралі больш за 30 тысяч подпісаў да кіраўніка краіны. Звярталіся яны таксама ў розныя іншыя інстанцыі, аднак станоўчага адказу так і не атрымалі. Вайсковая камендатура і пракуратура вызвалілі будынак кляштару, але ў касцёле па-ранейшаму месціцца Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, а таксама архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі. Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч неаднойчы выказваўся на гэтую тэму:

«Аб касцёле Святога Язэпа падчас сустрэч з прадстаўнікамі ўлады я заўсёды кажу. Там адным махам, як кажуць, пытанне вырашыць нельга. Нават з тае нагоды, што там знаходзіцца архіў. Архіў неабходна кудысьці перанесці, для гэтага неабходны будынак. Там працуюць людзі. І калі б сёння мне сказалі, што мы выганім людзей на вуліцу, то я буду супраць гэтага. Бо гэта супярэчыць сацыяльнаму вучэнню каталіцкага касцёла. Мне ўдалося вярнуць тут, у Беларусі, 97 каталіцкіх касцёлаў у 1989–1991 гадах. Але былі такія выпадкі, калі я казаў, што добра, сёння мы бярэм толькі закрыстыю. Бо далей — фабрыка, там людзі працуюць. Я іх на вуліцу выганю? Заўтра да мяне прыйдуць дзеці і скажуць, што ім няма чаго есці. Гэта было б не справядліва. Трэба шукаць мяккіх спосабаў вырашэння праблемы. Я заўсёды гэтае пытанне падымаю. Калі яно будзе вырашанае і якім чынам — мне цяжка сказаць».

Спадзяванні на вяртанне касьцёла вернікі ўскладаюць на абвешчаную вышэйшымі ўладамі краіны лібералізацыю. Спадзяванні пакуль не спраўджваюцца, і вось як гэта тлумачыць палітолаг Уладзімір Мацкевіч:

Што тычыцца канфесійных пытанняў, то тут не толькі ніякіх прыкметаў лібералізацыі няма, але нічога не змянілася з самых цяжкіх часоў. Гэта тычыцца і вяртання вернікам розных канфесій будынкаў, якія належаць ім гістарычна. Гэта і стаўленне да царквы «Новае жыццё», і іншыя прыклады. Лібералізацыя ніяк не прасунулася ў сферы, якія, як лічыць дзяржава, ніяк не паўплываюць на дачыненьне рэжыму з Еўропай».

Касцёл Святога Язэпа і кляштар ордэну бернардынцаў былі заснаваныя ў Менску ў XVII ст. Яны ўваходзілі ў кляштарны комплекс, дзе ў розныя гады працавалі пачатковая школа, школа філасофіі, бібліятэка на паўтары тысячы тамоў. У 1863 годзе манахі-бернардынцы падтрымалі паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Пасля яго задушэння паўстання ўсе яны былі гвалтоўна выселеныя ў Магілёў, а кляштар зачынілі. У касцёле некаторы час мясцілася праваслаўная царква, а ў 1872 г. ён быў перабудаваны пад архіў. Сёння тут месціцца «Архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі», а таксама «Архіў літаратуры і мастацтва Беларусі». Будынак былога кляштару да нядаўняга часу займалі вайсковая камендатура і пракуратура. Два гады таму вернікі-каталікі распачалі вулічныя набажэнствы за вяртанне каталіцкіх святыняў. Аднак гэтае пытанне па-ранейшаму застаецца нявырашаным. Стала вядома, што ўлады прынялі рашэнне пабудаваць на месцы кляштарнага комплексу забаўляльны цэнтар з гатэлем і падземнымі гаражамі.

**Галіна Абакунчык**



# Канфесійная структура беларускага грамадства за мінулы год не змянілася



— Канфесійная структура грамадства за мінулы год не змянілася, — паведамілі ў апараце ўпаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў. — Летась не было зарэгістравана новых рэлігійных напрамкаў. Дзейнічае 25 рэлігійных канфесій і напрамкаў. Агульная колькасць рэлігійных арганізацый — 3218, у тым ліку 156 рэлігійных арганізацый, якія маюць агульнаканфесійную значнасць (рэлігійныя аб'яднанні, манастыры, місіі, брацтвы, сястрыцтвы і духоўныя навучальныя ўстановы). У 2008 г. былі зарэгістраваны 61 рэлігійная і 3 манаскія абшчыны. Паляпшаецца матэрыяльны стан рэлігійных арганізацый і сітуацыя з кадрамі.

Летась вернікі ў нашай краіне стварылі 60 новых хрысціянскіх абшчын: 43 праваслаўныя прыходы (у 2007 г. — 32), 10 — рымска-каталіцкіх парафій і 7 — пратэстанцкіх абшчын, з якіх адна — евангельскіх хрысціян баптыстаў і 6 — хрысціян веры евангельскай.

Колькасць дзейных праваслаўных храмаў дасягнула 1274 (у 2007 г. — 1175), яшчэ 152 будуюцца. У 2008 г. было завершана будаўніцтва і рэканструкцыя 26 культавых будынкаў Беларускай праваслаўнай царквы. У праваслаўных прыходах сёння служыць 1499 свяшчэннаслужыцеляў. Кадры свяшчэннаслужыцеляў рыхтуюцца ў пяці навучальных установах БПЦ: Мінскай духоўнай акадэміі, Мінскай духоўнай семінарыі ў пасёлку Жыровічы Слонімскага раёна, Духоўным вучылішчы Віцебскай епархіі, Мінскім духоўным вучылішчы Мінскай епархіі, Слонімскім духоўным вучылішчы Навагрудскай епархіі. У Беларусі сёння дзейнічае 31 праваслаўны манастыр (у 2007 г. — 28), 14 брацтваў і 9 сястрыцтваў. Беларуская праваслаўная царква налічвае 11 епархій, якія аб'ядноўваюць 1473 прыходы (у 2007 г. — 1399).

За апошнія 12 год колькасць рымска-каталіцкіх прыходаў у нашай краіне павялічылася ў 4 разы. Сёння ў склад Рымска-каталіцкага касцёла ў Беларусі ўваходзіць чатыры дыяцэзіі, якія аб'ядноўваюць 467 парафій. У краіне дзейнічае 9 місій і 8 манастыроў РКЦ. Абшчыны маюць 451 касцёл, яшчэ 35 будуюцца. На студзень 2009 г. сярод 407 каталіцкіх свяшчэннаслужыцеляў 168 — замежныя грамадзяне, у тым ліку 161 — з Польшчы. Міждыяцэзіяльная Вышэйшая духоўная семінарыя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску за час сваёй работы падрыхтавала 12 свяшчэннаслужыцеляў, Вышэйшая духоўная семінарыя ў Гродне — 168.

У Беларусі дзейнічае 992 пратэстанцкія абшчыны 14 рэлігійных напрамкаў. Акрамя таго, без дзяржаўнай рэгістрацыі працягваюць дзейнічаць 28 груп вернікаў Савета Цэркваў евангельскіх хрысціян баптыстаў. Найбольш шматлікімі сярод пратэстанцкіх напрамкаў з'яўляюцца аб'яднанні хрысціян веры евангельскай — 500 абшчын і евангельскіх хрысціян баптыстаў — 269 абшчын.

У Мінску завершаны работы па будаўніцтве сінагогі па вуліцы Крапоткіна, 22. Аднавілася і летась значна прасунулася будаўніцтва мячэці па вуліцы Грыбаедава.

**Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА,**
**«Звязда»**

***Бюлетэнь «За свабоднае веравызнанне»***
***Bulletin of «For free Denomination»***
**№ 22, January — March 2008.**
**Наклад 299 экземпляраў.**
**Паштовы адрас: 220012, а/с 101, Мінск, Беларусь.**
**E-mail: religionfreedom@tut.by**
**www.forreligiousfreedom.info**
**Тэл. (+375 17) 282–42–10.**